# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT

22 сьнежня 2003 г. № 53 кошт 1 літ





Здымак Сяргея Плыткевіча

**Усім нашым дарагім супрацоўнікам "Руні" й актыўным у беларускім грамадзкім, палітычным і культурным, навуковым або мастацкім жыцьці пажаданьне радасных Калядаў і шчасьлівага Новага Году! З Божай помачай адновім супольнымі сіламі Беларускую Народную Рэспубліку! Добрага здароўя! З Богам, народжаным Збавіцелем! Слава Яму!**

*... Я зганьбаваную Сьвятыню,*
*Як мог, што сілаў аднаўляў.*
*На помач клікаў на чужыне,*
*Шляхі і вехі ўстанаўляў.*

*І бласлаўлёны Усявышні*
*Нас верай, сілай надзяліў –*
*Народ наш на зямлі ня лішні!*
*Ён будзе жыць, як хваль прыліў!*

***Кастусь Акула***



*Генадзь Лех*

## РАСЕЯ – ЯКАЯ ЯНА ЁСЬЦЬ

***Поўную вэрсію артыкула чытайце на нашым сайце www.runbel.lt***

*На абшарах былога СССР у значнай частцы насельніцтва захаваліся шматлікія стэрэатыпы аб матухне-Расеі, кшталту "загадочная русская душа", "русский мир", "добрый русский народ и враждебное окружение", "за правдой в Москву!", "демократическая и справедливая Россия" й г. д. Гэтыя стэрэатыпы настолькі моцныя, што, нягледзячы на развал СССР, шматлікія палітыкі савецкага партыйна-камсамольскага прызыву з былых саюзных рэспублікаў працягваюць гойсаць у Маскву за "праўдай", апелююць да "дэмакратычнага" ўладара РФ, маўляў, "рассуди и и помоги!", або да ягонага атачэньня, хтосьці зь іх тлумачыць гэта неабходнасьцю "нэўтралізацыі Расеі" ў хатніх справах, і пры гэтым у стасунках зь імпэрскім кіраўніцтвам яны захоўваюць намэнклятурны табель аб рангах. Простая магілеўская даярка-калгасніца марыць аб саюзе (РБ-РФ), бо "павінна-ж лягчэй жыць стаць", таму што "братняя Расея абавязкова павінна дапамагчы"... мабыць нават даіць кароваў.*

*Сустракаюцца падобныя стэрэатыпы ня толькі ў звычайных абывацеляў, а нават у нашых адраджэнцаў (нават у асобных бэнэфацыяў). Калі-ж зірнуць на гэтыя міты з боку, з сталіцы былое імпэрыі, дык інакш як "заскарузлы правінцыялізм" (найбольш мякка) гэта ўсе не ўспрымаецца. Прычым гэтая "заскарузласьць" у глухім палескім калгасе часам ня меншая, чым у цэнтры Менску. Філязофія жыцьця РФ дый Масквы зусім іншая – прагматычная й зьневажальная як да чужых, так і да сваіх. Зусім не такая, як уяўляецца шмат каму ў Беларусі. Міты застаюцца мітамі. А сучасная РФ ёсьць выключна прагматычная й паскудная краіна.*

### 1. З гісторыі

Сучасная РФ узьнікла не сёньня і ня ўчора, не на голым мейсцы. Вядома шмат іншых мітаў, кшалту "Москва – третий Рим", "Византийская Русь". Але ў сапраўднасьці тут зусім іншая сыстэма каштоўнасьцяў. Маскоўская дзяржава прыйшла на зьмену Залатой Арды, паглаціўшы ейныя народы й тэрыторыю, з чаго, пры далейшым пашырэньні, утварылася Расейская імпэрыя, потым СССР і, нарэшце, сучасная Расейская Федэрацыя. Вядомы Казьма Пруткоў калісьці сказаў: "Зри в корень!" А карані тут вызначаюцца гістарычнай восьсю Залатая Арда – Маскоўская дзяржава – Расейская імпэрыя – СССР – Расейская Федэрацыя. Нават фармаваньне самай гэтай дзяржавы праходзіла паводле таго самага мангольскага прынцыпу: захоп краіны зь ператварэньнем ва ўлус і выкарыстаньне рэсурсаў, у тым ліку чалавечых (чужога гарматнага мяса) для захопу наступнай краіны й г.д. Адсюль такая моцная імпэрская ідэалёгія "стэпу" ў сучаснай РФ. Адсюль такое стаўленьне як да сваіх, так і да чужых. Адсюль мэнтальнасьць сучаснага расейца.

### 2. Вайна

"Война очищает Россию", – кажа сучасны вядомы расейскі палітык. У свой час расейскі прэм'ер Віттэ, казаў, што ў гісторыі Расеі не было нават трох гадоў, каб яна не ваявала, і што трэба 50 гадоў спакою, каб краіна наладзіла дастойнае жыцьцё для сваіх грамадзянаў. Сучасная РФ традыцыйна ў вайне. На вайну сьпісваюцца ўсе праблемы, туды "зьнікаюць" грошы, на ёй робяцца палітычныя кар'еры (на крыві, як калісьці мангольскія ханы). Адзін і той самы аб'ект будуецца на паперы некалькі разоў (усё ўзрываецца у папяровых справаздачах "бандытамі"), – якое поле для чыноўнікаў, бо сродкі зь бюджэту выдзяляюцца некалькі разоў і кожны, у адпаведнасьці з рангам і мейсцам, атрымлівае сваё. Калі-б вайны ня было, яе давялось-бы прыдумаць.

Сучасны ўладар РФ пачаткам чарговай вайны ў Чэчэніі абавязаны сваім абраньнем на прэзыдэнта. Прычам, паводле старой ардынскай традыцыі з непакорным улусам (Чэчэніяй), ваююць ня толькі самыя рускія, але й татары, мардва і г. д., у тым ліку беларусы, грамадзяне РФ, і нават самыя чачэнцы, што прагнуць атрымаць цёплае мейсца пад "сонцам" або кавалкі з фэдэральнага бюджэту. Найбольшы прызыў з Паволжжа ды Уралу, дзе вельмі высокі працэнт іншамоўнага ды

Працяг на старонцы 6

# Каб жыла Беларусь!

***Думкі з нагоды 78-годзьдзя з дня нараджэньня Кастуся Акулы***

"Каб жыла Беларусь!" – гэтыя словы я часта чую тут, у Беларусі. Яны зацёрліся ад ужытку тых, хто пад Беларусьсю мае на ўвазе самых сябе. Гэтымі жывымі шчырымі словамі пачалі грашыць і "апазыцыянэры", і "дэмакраты", якія, як некалі камуністы, мараць аб адным – пабудаваць сьветлае цёплае й сытае грамадзтва для сябе й пад сябе...

"Каб жыла Беларусь!" Раней гэтыя словы зрываліся з вуснаў, ішлі ад сэрцаў тысячаў беларускіх патрыётаў, гатовых легчы на плаху сыстэмы, але ня даць загінуць Радзіме. Каляіну, па якой крочылі ногі беларусаў-змагароў, на жаль, размывае час. Ледзь прыкметны сьлед, які вядзе да волі, сёньня старанна-апантана дратуе ўлада, ейныя паслугачы, нямыя й глухія, каторыя дзеля прывілеяў, дзеля сякога-такога заробку сьцеляцца дыванком пад ейныя ногі. Учарашнія "абранцы" незалежнасьці цкуюць сёньня тую самую незалежнасьць, турбоцячыся пра цёплае ды сытага мейсца пад сонцам, прадаюць душу Лукаваму.

"Каб жыла Беларусь!" – гэтыя словы, на шчасьце, да цяперашняга часу ёсьць сьвятая сьвятых для нашых суайчыньнікаў за мяжою. За доўгія гады прабываньня на чужыне яны прызвычаіліся і да іхнага "о'кэй!", і да годнага жыцьця-дабрабыту. Адно яны іолькі не захацелі – вырваць са сваёй душы, са сваёй памяці мілы сэрцу вобраз Беларусі. Ня верце таму, хто сьцьвярджае, што, пражыўшы за мяжою 3-5 гадоў, забываесься на сваю мову, што цераз дзясятак гадоў зусім ня цягне на Бацькаўшчыну, што цераз дваццаць – і думаць ня хочацца пра краіну, дзе зьведаў столькі бяды ды нядолі. Той, хто такое сцьвярджае, ня ведае, што значыць быць грамадзянінам свае Краіны. Той быў звычайным прыжывальшчыкам тут і там застаўся такім самым кватэрантам.

* * *

«Каб жыла Беларусь!" – бо там закапана пупавіна, бо там боль яго разрыву з бяспамяцтвам і пачатак асэнсаванага жыцьця... "Каб жыла Беларусь!" – бо спакутаваная гадамі, яна павінна быць і шчасьлівай... "Каб жыла Беларусь!" – гэта наш дэвіз, наша сьвятая сьвятых усякіх пачынаньняў на чужыне", – піша наш зямляк зь Верацею у сваёй кнізе "Усякая ўсячына". Я не пішу "мой зямляк", а сцьвярджаю, што "наш", бо Кастусь Акула, народжаны й хрышчоны ў Беларусі, сумленьне нашай нацыі, гонар усяго народу. Ён – наш шлях да пакаяньня, ачышчэньня й новага жыцьця, прыклад, як трэба жыць у суладзьдзі з духоўным і як, не зважаючы на перашкоды й цяжкасьці, не згубіць Бога ў душы. Ягонае жыцьцё – гэта абагулены вобраз Беларусі ў розныя часы й эпохі. Гэта адказ на спаконвечныя пытаньні: "Што рабіць?", "У чым сэнс жыцьця?", "Для чаго нараджаемся на сьвет?" Праз ягонаю асобу мы, можа, зразумеем нарэшце, што словы "Каб жыла Беларусь!" – гэта і лёс, і грэх, і сэнс, і боль, і слодыч жыцьця, і будучыня, і адвечны шлях, і ідэал, і пошук сябе самога.

*Перад будучыняй нашай,*
*перад родным краем*
*Прысягаю аж да сьмерці*
*служыць роднай справе.*
*Працай, сілай маладою*
*буду памагаці,*
*Каб на попеле нязгоды*
*лёс наш будаваці.*
*Калі-ж здарыцца патрэба*
*бараніць краіну,*
*Я да волі, для народу*
*пракладу сьцяжыну.*
*Бяда, гора мне ня страшны,*
*бо нядолю знаю...*
*Дык змагацца за свабоду*
*жыцьцём прысягаю!*

Гэтыя радкі нашага земляка Кастуся Акулы, які падпісваўся псэўданімам "Міхась Козыр", былі надрукаваныя ў "Беларускай газэце" ў чэрвені 1943 г. Словы прысягі зрабіліся сутнасьцю ягонага жыцьця, жыцьця сапраўднага беларуса, які ніколі не здрадзіў сваёй краіне.

Працяг на старонцы 7

# Занатоўкі лекцыяў Марэка Навіцкага

*Два гады таму назад мне давялося пабываць у якасьці "шкаляркі" на штудыях у Міжнароднай школе правоў чалавека ў Медзешыне (Варшава). Я была заварожаная лекцыямі Марэка Навіцкага, вядомага праваабаронцы, былога ўдзельніка польскага руху "Салідарнасьць". Ягоны досьвед барацьбы палякаў з камуністычным рэжымам можа быць скарыстаны ўсімі, хто змагаецца за незалежнасьць і свабоду сваіх краінаў, у тым ліку можа прынесьці карысьць кіраўнікам нашых апазыцыйных партыяў, беларускім праваабаронцам, прафсаюзным дзеячам дый усім астатнім, хто хварэе душой за Беларусь. Прапаную чытачам "Руні" свае сьціслыя занатоўкі дасьціпных лекцыяў М. Навіцкага.*

* Правы й свабоды грамадзянаў абцяжарваюць кіраваньне ўладаў. Нашыя правы – гэта абавязкі ўладаў. Чым больш правоў мы маем, тым больш абавязкаў ва ўлады. А нашая свабода – гэта сфэра жыцьця, куды ўлада ня мае права ўмешвацца. У канстытуцыі ЗША запісана, што свабода й імкненьне да шчасьця – гэта неад'емнае права кожнага чалавека, і дзяржава не павінная ні дапамагаць, ні замінаць у гэтым сваім грамадзянам.

* Прававой дзяржаву можна назваць толькі тады, калі грамадзянін можа прадбачыць, якой будзе рэакцыя ўладаў на ягоныя паводзіны, калі дзеяньні ўладаў прадказальныя, калі дзейнічаюць замацаваныя законам "правілы гульні" паміж грамадзянамі і ўладамі.

* Абавязкі грамадзянаў у цывілізаваных краінах: абараняць радзіму, плаціць падаткі, падпарадкоўвацца пастановам суда і, калі ўлада не спраўляецца з сваімі абавязкамі, замяніць яе на лепшую.

* Закон павінен абараняць чалавека ад чыноўніка, а Канстытуцыя – ад заканадаўчай улады, г. зн. ад самай дзяржавы.

* 15 сьнежня 1791 г. кангрэс ЗША прыняў першую папраўку да Канстытуцыі: "Кангрэс ня прыме закон, які абмяжоўвае свабоду слова й друку!" Гэтая папраўка без зьмяненьняў дзейнічае ўжо 313 гадоў.

* У Амэрыцы кожны можа спаліць дзяржаўны сьцяг і ня быць пакараным, бо гэта расцэньваецца як пратэст супраць існуючай палітыкі й падпадае пад дзеяньні, якія дазваляюцца свабодай слова.

* Прыкметы таталітарнай улады: грамадзяне ня ведаюць, як працуе ўлада й прадстаўнікі ўлады – іхнае жыцьцё й дзейнасьць засакрэчаныя; грамадзянін для ўлады – празрысты, г. зн. дзяржава ведае пра чалавека ўсё; улада пляную жыцьцё грамадзянаў; сыстэма прывілеяў ствараецца толькі для ўлады, а не для астатніх людзей. Іншымі словамі, жыцьцё ў таталітарнай дзяржаве можна параўнаць зь яздой у цягніку. Прычым, пасажыр ня ведае, куды ён едзе, накірунак і хуткасьць язды ад яго не залежаць.

* У таталітарнай дзяржаве так: калі ёсьць галава, дык знойдзецца й параграф закону, якім чынам зьняць яе з плеч.

* Пераход таталітарнай дзяржавы ў дэмакратычную – гэта як перабудова карабля на моры ў часе плаваньня: трэба перабудаваць і пры гэтым не патануць. Гэта падобна й да таго, калі-б чалавека перасадзілі з вышэй спамянёнага цягніка, які йшоў немаведама куды, у аўтамабіль і сказалі: "Рабіце, што хочаце, едзьце, куды жадаеце, аднак за ўсё будзеце адказваць!" А людзі-ж, што выраслі пры таталітарызме, прывыклі ні аб чым ня думаць, і ні за што не адказваць. У зьвязку з гэтым, у пераходны пэрыяд у іх зьнікае пачуцьцё бясьпекі, яны ня ўмеюць скарыстаць дасягненьні дэмакратыі.

* Маштабныя масавыя пратэсты зьяўляюцца не тады, калі ўлада парушае правы чалавека, а тады, калі людзі хочаць жыць лепш, чым яны жывуць.

* Як разбудзіць грамадзтва? Перадачы радыё "Салідарнасьці" выходзілі штодзённа па 5-7 хвілінаў – пакуль не запеленгуюць кэдэбэшнікі. Напрыканцы кожнай перадачы дыктар казаў: "Хто сёньня слухаў нас, няхай некалькі разоў уключыць і выключыць сьвятло". І "сыгналілі" сьвятлом мільёны слухачоў па ўсёй краіне. Седзячы ў сваіх кватэрах і ўліваючыся сваім агеньчыкам у мільёны такіх самых агеньчыкаў – яны пазбаўляліся ад страху.

* Дыктар "Салідарнасьці" прапаноўваў: "Ня слухайце камуністычную прапаганду! У знак пратэсту стаўце тэлевізары на вокны экранамі на вуліцу, а самі выходзьце вонкі!" І вечаровыя вуліцы ажывалі, а камуністы-агітатары балбаталі ў нямую пустэчу.

* Дыктар аб'яўляе, што з панядзелка па цотным баку вуліцы будуць хадзіць толькі паважаныя людзі, а па няцотным – шпіёны й агенты. Той, хто ня слухаў перадачы "Салідарнасьці", ішоў амаль у адзіночным ліку па пастым тратуары й не разумеў, чаму большасьць людзей цесьніцца на адваротным баку й паказвае на яго пальцамі.

* Пры камуністах у Польшчы былі забароненыя ўсялякія забастоўкі, а такія акцыі патрэбныя былі, як паветра. І палякі пачалі рабіць інсцэніроўкі-мізансцэны. Студэнты й выкладчыкі Ўроцлава ўзялі машыны, лёзунгі, паехалі ў заапарк і сталі патрабаваць свабоды для сланоў і жырафаў. Затым яны пачалі езьдзіць па горадзе, зварочваць увагу жыхароў, прымушаючы задумацца апошніх, што ў клетках за кратамі жывуць ня толькі сланы й жырафы.

* Камуністы, якія хацелі ўладарыць сьветам, былі ня ў стане забясьпечыць насельніцтва туалетнаю папераю. Пры Саветах яна была вялікім дэфіцытам. На гэтым "Салідарнасьць" рабіла масавыя "спэктаклі". Па радыё аб'яўлялі: "Прыходзьце заўтра ў цэнтар гораду й зможаце набыць туалетную паперу!" Аб'ява рабілася напярэдадні завозу "дэфіцыту" ў дзяржаўныя крамы. Людзі куплялі паперу ў крамах, выходзілі на вуліцу, а мы раздаём ім тую самую паперу бясплатна.

* Напярэдадні сьвяткаваньня Кастрычніцкай рэвалюцыі мы па радыё прасілі, каб кожны апрануў ці прынёс з сабой на дэманстрацыю нешта чырвонае. І чырвонага ў натоўпе было столькі, што ўлады проста губляліся. У яе пачыналася алергія на ўлюбёны чырвоны колер. Паступала каманда хапаць усіх, у каго чырвонае. Але хіба можна схапіць 5 тыс. чалавек? Да таго-ж была яшчэ адна нявінная ўстаноўка: замаўляць у барах і ў кавярнях страву з чырвоным, боршч, да прыкладу, ці кісель. Паказалі мы камуністым іхную чырвоную рэвалюцыю!

* Вось як мы вучылі людзей не баяцца паліцыі й затрыманьняў. Запрашалі па радыё прыйсьці ў пэўны час у цэнтар гораду ў масках гномікаў. У некаторых "гномікаў" на рукавах былі павязкі з надпісам "Паліцыя". Людзі зьбіраліся, размаўлялі, танчылі, сьпявалі. Прыяжджала паліцыя, пачынала хапаць "гномікаў" ды садзіць іх у свае машыны. Але "гномікі"-паліцыянты таксама пачыналі хапаць "гномікаў" і садзіць іх у паліцэйскія машыны. Працэс затрыманьня ператвараўся ў фарс-гульню.

* Палякі адвучвалі лідараў камуністычных партыяў наносіць свае візыты ў Варшаву. Гэта былі сапраўдныя сатырычныя спэктаклі. Людзі станавіліся уздоўж трасы, па якой ехаў "візыцёр", або сьпінай да шашы, або тварам, калупаючыся ў носе. Як вынік, сустрэчы кіраўнікоў кампартыяў пачалі адбывацца на аэрадромах.

* Залатое правіла для ўдзельнікаў акцыяў пратэсту – адносіцца без варожасьці й агрэсіўнасьці да паліцыі й арміі, бо паліцыя й армія ня ворагі народу. Аднойчы людзі прыйшлі да палацу партыйнага кіраўніка. Іх абкружыла паліцыя й трымала трое сутак. Ніхто з маніфэстантаў ня рваўся праз ланцуг узброеных людзей. Цэлых тры дні мы вялі перамовы з вайскоўцамі, пераконвалі іх, што мы й яны – адзін народ. Калі прыйшоў загад "Расьсеіць народ!", армія й паліцыя або бязьдзейнічала, або пераходзіла на наш бок. Гэтак і ў Белградзе паліцыя адчыніла народу дзьверы ў парлямант.

*Я не заклікаю нашых айчынных апазыцыянэраў капіраваць чужую "Салідарнасьць". Мэта маіх нататкаў – паказаць нялёгкія, але шырокія магчымасьці для творчага й сапраўды зацікаўленага падыходу да беларускай справы. Але справа гэтая павінная быць чысьцінкаю жыцьця, а не прадметам для торгу з уладамі ў абмен на ўласныя выгоды.*

**Правінцыялка**

## *Уладзімір Глод*

# Грузінскі варыянт для Беларусі?

Страта ўлады Эдуардам Шэварнадзэ выклікала масу камэнтароў. Найбольш агульнымі ў іх сталіся два моманты: выкарыстаньне ў падзеях у Тбілісі югаслаўскага пляну й роля амэрыканскага амбасадара ў Грузіі, які, як шмат хто сьцьвярджае, зусім не выпадкова працаваў на той самай пасадзе ў Югаславіі - акурат тады, калі там скідалі прэзыдэнта Мілошавіча. Наколькі грузінскі варыянт магчымы ў Беларусі?

... Цяжка сказаць, як павядзе сябе Нацыянальны сход у тым выпадку, калі становішча ў Менску пачне нагадваць тбіліскую. Вядома, як хутка ўлоўлівае зьмены «прыдворная вярхушка», як і тое, што ніхто так хутка не здае свайго «верхаводы», як самыя блізкія да яго людзі. Да таго-ж Аляксандар Лукашэнка ўхітрыўся публічна пакрыўдзіць столькі сваіх паплечнікаў, што ніхто зь іх ня будзе адчуваць згрызотаў сумленьня - даўно вядома: вока за вока, зуб за зуб.

І, нарэшце, як будзе паводзіць сябе Іваноў? Ня той, зьбіральны расейскі чалавек, а канкрэтны й рэспэктабельны Іваноў з Крамля? У Тбілісі, як вядома, адмыслова лётаў міністар замежных справаў Ігар Іваноў. Усе адзначылі, што заяву пра сваю адстаўку Эдуард Шэварнадзэ абвесьціў толькі пасьля размовы з расейскім міністрам, калі канчаткова ўцяміў, што Расея падтрымліваць яго ня будзе. Магчыма, хутка Іваноў імкліва павінен будзе імчацца ў Менск. Толькі я думаю, што гэта будзе ня Ігар Іваноў, а іншы расейскі міністар з тымжа прозьвішчам. Падобна, што для большай пераканаўчасьці аргумантаў у сталіцу Беларусі трэба пабываць менавіта гэтаму Іванову - Сяргею Барысавічу, міністру абароны РФ. Для таго, каб даць пэўныя гарантыі, і перашкодзіць, калі, ня дай Бог, у некага засьвярбяць рукі.

І гэта - не ілюзіі. Чамусьці мала хто з аналітыкаў зварочвае ўвагу на тое, што Аляксандар Лукашэнка зараз паўтарае шмат якія дзеяньні Эдуарда Шэварнадзэ. Успомніце, як у Расеі

паблажліва паставіліся да адхіленьня ад улады «нацыяналіста» й «радыкала» Зьвіяда Гамсахурдыі. А ці ня гэтак сама ўспрынялі ў Маскве адстаўку Станіслава Шушкевіча? Ці ня той самы ярлык начапілі й яму? І як радаваліся прыходу да ўлады «надзейных саюзьнікаў» - Эдуарда Шэварнадзэ й Аляксандра Лукашэнкі. Толькі спачатку першы з «надзейных» ушчэнт рассварыўся з Крамлём: цяпер па ягоных сьлядох рушыць і другі. У Маскве гэтае бачаць і даюць адпаведную ацэнку. Літаральна на днях прэтэндэнт на пост новага главы зьнешнепалітычнага ведамства Расеі Дзімітры Рагозін публічна заявіў, што «Лукашэнка гэта нават горш, чым Шушкевіч». Рагозін не пабаяўся выступіць з такой заявай напярэдадні выбараў у Думу. І не памыліўся - блок «Родина», дзе ён стаяў другім у сьпісе, цяпер будзе мець у парляманьце ўласную фракцыю. І таму ўсе заявы Аляксандра Рыгоравіча, што «спэкуляцыі» наконт беларуска-расейскага саюза асуджаныя на правал, ёсьць далёкія ад рэчаіснасьці. Больш таго, шмат якія палітыкі ў Белакаменнай пагаворваюць пра тое, што ворагі Расеі, чамусьці, усё часьцей зьяўляюцца ў бліжэйшым акружэньні прэзыдэнта Беларусі.

І калі дапусьціць, што сцэнар пазбаўленьня ўлады Шэварнадзэ быў распрацаваны ў Вашынгтоне, дык застаецца прызнаць відавочнае - Масква гэтаму не замінала. Ці не паўторыцца гэткі самы падыход і ў дачыненьні Беларусі?

Восеньню 2004 г. у Беларусі пройдуць парляманцкія выбары. Зандаваньне грамадзкага меркаваньня паказвае, што ў працiўнікаў Лукашэнкі зьяўляецца даволі многа шанцаў на посьпех. І таму мне зараз вельмі цікава ўявіць, як будзе паводзіць сябе ўлада: будзе яна дзейнічаць, як і раней, груба й непрыстойна, ці пачне нейкім чынам манеўраваць? Пры першым варыянце нельга выключаць у Беларусі паўтору грузінскіх падзеяў. Другі варыянт ёсьць выключна небясьпечны для самага Лукашэнкі, бо ён сам прывучыў Беларусь да непрыняцьця нават найменшых кампрамісаў. Яны для Аляксандра Рыгоравіча, як вядома, сьмерці падобныя. Бо зло, як паказваюць прыклады Бялграду й Тбілісі, заўсёды пакаранае. Эпосе А. Лукашэнкі суджана прайсьці, як і эпосе Мілошавіча, і эпосе Шэварнаджэ.

***«Аналітычны маніторынг СМІ У. Падгола»***

# Там, дзе мяне няма...

***20. Першая беларуская радыёперадача ў паваеннай Літве. Пераезд Зоські Верас у гарадзкую кватэру. Пажар у "Лясной хатцы". Падзеі студзеня 1991 г. Сьмерць і паховіны Зоські Верас.***

На першым-жа паседжаньні Рады ТБК было пастаўленае пытаньне пра беларускія перадачы на літоўскім радыё і тэлебачаньні ды пра беларускі друк.

Супольныя намаганьні "Сябрыны" й Таварыства беларускай культуры далі плён: ужо ў сакавіку 1989 г. быў атрыманы ад тагачаснага загадчыка Аддзелу масавай інфармацыі Юстаса Палецкіса дазвол на беларускае радыё й тэлеперадачы. Першая беларуская перадача "Беларуская слова на хвалях Летувы" адбылася 29 сакавіка 1989 г. Гэта быў рэпартаж зь мітынгу на Лукішскай плошчы, прысьвечаны К. Каліноўскаму й записаны 25 сакавіка.

Першая перадача разглядалася на паседжаньні ТБК. Была створаная рэдкалегія ў складзе А. Аблажэя, К. Балаховіч, Л. Луцкевіча й В. Стэха. Дыктарамі меліся быць Я. Мятліцкі, М.Рымша, М. Санько, К. Балаховіч. Але ўжо напрыканцы году рэдкалегія распалася й перадачу ўзяў у свае рукі Л. Луцкевіч, якому памагала Т. Каротчанкава, а пазьней студэнткі катэдры беларусыстыкі Віленскага пэдінстытуту Іна Бэйнар (Аляшкевіч) і Эдыта Грынюк (Шукевіч). Апошнія вядуць перадачу й цяпер.

Восеньню 1989 г. мы разам з мамай пераехал ў нашую гарадзкую кватэру на вул. Архітэкту. Слава зь сям'ёй пераехаў жыць у Судэрве ў свой дом. Раней мама нават і гаварыць не хацела аб тым, каб пакінуць "Лясную хатку", але цяпер, калі яна амаль асьлепла, згадзілася на пераезд. Ейны ложак стаяў каля вакна й яна сказала: "Птушкі лётаюць..." Відаць, бачыла яшчэ рух, палёт галубоў.

Пацягнуліся поўныя клопату дні. Лявон памагаў мне, часта заставаўся з мамай, калі я йшла ў інстытут. Я не пакідала працы, для мяне гэта была магчымасьць пабыць зь людзьмі, з моладзьдзю. Сам Лявон вёў перадачы на радыё, рыхтаваў іх. Сумна й балюча было глядзець на маму, такую бездапаможную, ізаляваную ад сьвету. І куды падзеліся тыя, хто прыяжджаў да яе, карыстаўся ейнымі архівамі, парадамі... Ціха, глуха... Ні лістоў, ні званкоў, каб хоць хто-небудзь пацікавіўся, як яна маецца, ці патрэбная якая дапамога.

13 траўня 1990 г. згарэла "Лясная хатка". Там тады нікога не было, і калі ў Раванцах заўважылі пажар, полымя падымалася над лесам. Прыехалі пажарнікі, але гасіць ужо не было чаго. Прычына пажару невядомая. Пэўна нехта наўмысна падпаліў, бо на папялішчы не было ні сьледу радыятараў, ні тэлевізару. Маме пра пажар мы не сказалі-б, каб і можна было.


*Мітынг на Лукішскай плошчы, прысьвечаны К. Каліноўскаму. Выступае гісторык Я. Янушкевіч. 25 сакавіка1989 г.*

50 гадоў прастаяла "Лясная хатка". Колькі людзей наведала ейную гаспадыню, карысталася ейнай гасьціннасьцю, пісала пра яе... Я, пасьля пажару, на тым мейсцы, дзе стаяла "хатка", так і не была. Не магу. Толькі ў снах часта сьніцца лес, сад, хатка. Адчуваю сябе вінаватай, што не змагла зьберагчы сваё радзіннае гняздо. Засталіся адныя ўспаміны.

Праходзілі дні за днямі. Мянялася палітычная сытуацыя. Кампартыя Літвы аддзялілася ад КПСС, быў зроблены першы крок да незалежнасьці. Студзень 1991 г. прынёс трагічныя падзеі. Каля парляманту й тэлевежы стаялі людзі, гатовыя бараніць іх. Луналі літоўскія трыкалёры, трапляліся сярод іх і нашыя, белчырвона-белыя. Беларусы маладзейшага пакаленьня - Аблажэй, Балаховічы, Зялёнка, Поклад, Кузьменка, Якшцене ды іншыя - лічылі патрэбным падтрымаць літоўцаў у іхным дамаганьні незалежнасьці.

13 студзеня "амонаўцы" атакавалі будынак радыё й тэлебачаньня на вул. Канарскага. Быў вечар, мы былі дома, радыё было ўлучанае. Жаночы голас усё паўтараў: "Мы тут, мы тут, мы яшчэ перадаем!" Пасьля тупат салдацкіх ботаў, звон бітага шкла й... цішыня.

З боку тэлевізійнай вежы, якую жывым паясам абкружалі людзі, былі чутныя стрэлы. Лявон паклікаў мяне: "Паглядзі!" З вакна пакою, каторае выходзіла на тэлевежу, я ўбачыла танкі, якія доўгаю калёнаю ехалі па праспэкце Касманаўтаў (цяпер - Свабоды). Зрабілася страшна. У страляніне каля вежы загінулі людзі.

Прасавецкі настроеныя расейцы й літоўцы пераналі ўладу. Ніхто ня ведаў, што будзе далей. Лявон запісаў перадачу дома й пайшоў у Палац спорту, адкуль, як ён даведаўся, мела перадаваць незалежнае радыё. Яго спаткалі там зь вялікім энтузіязмам. Беларускія перадачы выходзілі рэгулярна, увесь час.

11 сакавіка 1991 г. Вярхоўны Савет Літвы абвесьціў Літву незалежнай рэспублікай. Напружанасьць у грамадзтве заставалася. Ніхто ня мог прадбачыць, як будзе рэагаваць Расея. (Апошні прэзыдэнт СССР М. Гарбачоў, распачаўшы "перабудову" й "галоснасьць", ня мог прадбачыць, чым гэта канчыцца. Выйшла, як у Гётэ: "Не магу пазбыцца духаў, каторых я вызваў!")

Прайшла вясна, лета, восень. Мама ўсё слабела, доктар сказаў, што гэта справа часу, жыве, бо сэрца ў яе здаровае. І вось 8 кастрычніка 1991 г. абарвалася доўгая нітка жыцьця Зоські Верас. Памёрла яна ў сьне, дзень перад гэтым усё клікала Фабіяна Шантыра, свайго першага мужа, пражыць зь якім ёй было наканавана вельмі коратка. У ейных архівах захоўваліся лісты Шантыра, яговыя рукапісы, партрэт. Відаць, што яна праз усё сваё доўгае жыцьцё пранесла вялікае й шчырае каханьне да Фабіяна.

Паховіны Зоські Верас сталіся сапраўднай маніфэстацыяй беларушчыны. Вільня бачыла некалькі ўрачыстых паховінаў беларускіх дзеячоў: К. Сваяка, Ядвігіна Ш., Ф. Аляхновіча. (Апошнія я добра памятаю, бо сама йшла зь вянком за ягонай трунай). На паховіны Зоські Верас прыйшлі сваякі, знаёмыя, прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў "Сябрына", ТБК, новастворанай Асацыяцыі беларусістаў Літвы. Зь Беларусі прыехалі пісьменьнікі, вучоныя, мастакі, моладзь з Гародні, Маладзечна, Берасьця, Менску. Калі выносілі труну з Палацу рытуальных паслугаў на Галяндзкай вул. (Оланду), моладзь стала ў дзьве даўгія шарэнгі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, сьцягамі БНР, акт пра абвешчаньне якой Зоська Верас, разам зь іншымі беларускімі дзеячамі, падпісала ў сакавіку 1925 г. 5-гадовы праўнук З. Верас так і запамятаў паховіны сваёй прабабкі: "Было вельмі шмат людзей, кветак і сьцягоў!"

Беларускага друку ў Вільні яшчэ не было. У расейскіх і літоўскіх газэтах зьявіліся сьціплыя нэкралёгі. Менская газэта "Звязда" зьмясьціла 12 кастрычніка хвалюючыя радкі: "Вільня пабяднела для беларусаў. У ёй не стала Зоські Верас... А нам усім здавалася, што мудры лёс падараваў ёй вечнасьць. Спецыяльна пакінуў беларусам гэтага памятлівага экскурсавода ў эпоху нашага мінулага рамантычнага адраджэння. У часы, калі нацыянальная свядомасьць была страшэнным крыміналам, яе маленькая "лясная хатка" ў Вільні прыцягвала як неафіцыйны музей беларушчыны. І сцежка ў яго не зарастала".

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**


*Савецкі танк перад тэлевежаю ў Вільні. Студзень 1991 г.*

На просьбу сп. Булата з Англіі падаем ніжэй адрас Беларускага Сабору Сьв. Мікалая ў Манчэстары:
*The Belarusian Orthodox Cathedral*
*Of Saint Nicolas*
*2, Hall Moss Road, Grange Park Road*
*Blackley, Manchester M9 7AT*
*England*

# ЗНОЎ ПРЫЙШОЎ К НАМ НОВЫ ГОД!

Шаноўныя чытачы! Выдавецтвам "Рунь" падрыхтаваныя да выданьня тры тамы "Беларускай вершаванкі-запамінанкі для дзяцей дашкольнага й малодшага школьнага ўзросту". "Вершаванкаю" гэтая анталёгія вершаў для дзяцей названая таму, што ў ёй зьмешчаныя толькі вершаваныя творы, а "запамінанкаю" – таму, што ўсе творы анталёгіі прызначаныя для завучваньня дзецьмі напамяць. Першы том "Побач з намі на зямлі" прысьвечаны жывёльнаму сьвету, які зь дзяцінства атуляе дзіцяці, другі – прыродзе, прыродным зьявам, расьліннаму сьвету, трэці – сьвету чалавека. Першы том цалкам зьмешчаны на нашай інтэрнэт-старонцы www.runbel.lt (гл. рубрыку "Літаратура"), а ніжэй падаем адзін з разьдзелаў 3-га тому, цалкам прысьвечаны навагодняму сьвяту, Дзеду Марозу, ёлцы. Вельмі спадзяемся на Вашую, шаноўныя чытачы, зваротную рэакцыю – на тое, што Вы будзеце прысылацьу рэдакцыю вядомыя Вам вершы для дзяцей, якія-б Вы хацелі пабачыць у нашай рунеўскай "вершаванцы-запамінанцы". З Новым Годам, сябры! З Новым шчасьцем! Вясёлых сьвятаў!

Здымак Сяргея Плыткевіча

### Ходзіць дзед белабароды

*Ходзіць дзед белабароды*
*Полем, лесам, пералескам,*
*Засьцілае рэчкі лёдам,*
*Брыльяньцістым сьнежным блескам.*
*Сыпле іней на бярозы,*
*Туліць дрэвы лёгкім пухам,*
*Крые руні, травы, лозы*
*Белай воўнаю-кажухам.*
*(Я. Колас)*

### У вопратцы белай

*У вопратцы белай,*
*Шырокай, даўгой*
*Зь вялікай пушыстай*
*Мятлой-барадой*
*Прыйшоў к нам здалёку*
*Дзядуля Мароз,*
*Завеі і холад*
*З сабою прынёс.*
*У бель апранае*
*Ён дрэвы, кусты,*
*На рэках, азёрах*
*Будуе масты.*
*Па вуліцах ходзіць*
*Ды сьнегам хрушчыць,*
*Вятры з сабой водзіць,*
*У дрэвах трашчыць.*
*(Я. Журба)*

### Дзе ты, добры Дзед Мароз?

*Дзе ты, добры Дзед Мароз?*
*Мо дзе ў лесе ты замёрз?*
*Што да нас ты не прыходзіш?*
*Ці валёнак не знаходзіш?*
*Ці вавёрка спрытнай лапкай*
*У цябе схапіла шапку?*
*Дзе ты, добры дзед Мароз?*
*Можа, сьнег цябе занёс?*
*Ці кажух ты не знаходзіш?*
*Ці вакольным шляхам ходзіш?*
*Ці лісіца мех праела?*
*Ці ў мяшэчку апусьцела?*
*Дзе ты, добры Дзед Мароз?*
*Пакажы нам хоць-бы нос!*
*(У. Карызна)*

### Дзед Мароз

*Дзед Мароз, Дзед Мароз*
*Дзецям ёлачку прынёс.*
*А на ёлачцы зялёнай*
*Цацак, лялек мільёны!*
*Ярка сьвецяцца агні!*
*Як жа хораша – зірні!*
*(З народнага)*

### Зноў прыйшоў к нам Новы год

*Пасінеў на рэчках лёд,*
*Неба ў ясных зорках.*
*Зноў прыйшоў к нам Новы год*
*Зь песьнямі і ёлкай.*
*Водзіць з намі карагод*
*Сам Мароз-дзядуля.*
*Многа казак у яго*
*І вясёлых гульняў.*
*(М. Чарняўскі)*

### Дзе пушчы ды балоты

*Дзе пушчы ды балоты,*
*Між елак і бяроз,*
*На лыжах па сумётах*
*Шыбуе Дзед Мароз.*
*Зіхцяцца, як карункі,*
*Сьняжынкі ў барадзе,*
*А ў торбе падарункі*
*Дзіцячай грамадзе.*
*І радасна на сьвяце,*
*І весела да сьлёз,*
*Калі у цёплай хаце*
*Гасьцюе Дзед Мароз.*
*(С. Сокалаў-Воюш)*

### На ёлчына сьвята

*Сябры дарагія*
*Прыходзьце ў дзетсад*
*На ёлчына сьвята,*
*На баль-маскарад.*
*На ёлцы сягоньня*
*Дзівосьнейшы убор,*
*На лапках зялёных*
*Па тысячы зор.*
*Вы будзеце з намі*
*Вадзіць карагод.*
*Як слаўна зь сябрамі*
*Сустрэць Новы год!*
*(Н. Галіноўская)*

### Ёлачка-бароўка

*Ёлачка-бароўка*
*Ў хату да цяпла*
*Ад зладзюгі-воўка*
*З бору уцякла.*
*Ў пацеркі-каралі*
*Ёлачку прыбралі.*
*Запалілі зорку –*
*Пачалі гаворку.*
*Скокнула пад ёлку*
*Спрытная вавёрка.*
*Пачынаюць гулі*
*дудары-музыкі.*
*– Разьвяжы, дзядуля,*
*Свой мяшок вялікі!*
*(Д. Бічэль-Загнетава)*

### Пачынаем карагод

*Новы год! Новы год!*
*Пачынаем карагод!*
*Закружылася ля ёлкі*
*Наша дружная сям'я,*
*Закружыліся іголкі,*
*Закружылася зямля.*
*Закружыўся белы дзед,*
*Закружыўся цэлы сьвет!*

*А на ёлцы – цацак, цацак!*
*Рыбкі, дырыжаблікі.*
*Нібы росныя, іскрацца*
*На галінах яблыкі.*
*І дрыжаць, зіхцяць яе*
*Срэбраныя бусы.*
*Дзед цукеркі раздае*
*Ды сьмяецца ў вусы.*
*(Н. Гілевіч)*

### Маё футра на пуху

*Маё футра на пуху,*
*Што мне сьнег, марозы!*
*Я нашу ў сваім мяху*
*Цуды і дзівосы.*
*Па радзімай старане*
*Валачуся з клункам.*
*Той хто верш раскажа мне,*
*Будзе з падарункам.*
*(Л. Пранчак)*

### Ёлачка, ёлачка

*Ёлачка, ёлачка,*
*Са сьцюдзёнай вуліцы!*
*Ёдкія іголачкі*
*Да галінак туляцца.*
*Мы гальлё зялёнае*
*Апранем вясёлачкай.*
*Самае ўлюбёнае –*
*Гэта сьвята зь ёлачкай!*
*(С. Сокалаў-Воюш)*

### Ёлачка-красуня

*Ёлачка-красуня*
*У бары жыла,*
*Пад дажджлівым небам*
*Дужала, расла.*
*Мылася расою,*
*Мылася дажджом,*
*Твар свой выцірала*
*промнем-ручніком.*
*Гаманіла з хвояй,*
*Роднаю сястрой,*
*Апранала футра*
*Белаю зімой.*
*А цяпер у залі*
*Ёлачка стаіць,*
*Цацкамі, агнямі*
*Зьзяе, зіхаціць!*
*(В. Карпечанка)*

### Дзякуй, зімка...

*Дзякуй, зімка, што да нас прыйшла,*
*Прыгажуню зь лесу прывяла!*
*Каля ёлкі ўсе нашы сябры.*
*Весяліцца будзем да зары.*
*Як у казцы, прыгажосьць наўкол –*
*Сьнег бялюткі сыплецца на дол.*
*Каля ёлкі ўсе нашы сябры,*
*Весяліцца будзем да зары.*
*(Л. Шаргаева)*

### Алесь Касьцень

* * *

Калі зьнячэўку зрынуцца залевы
Ў вярхоўях рэчкі на сьцямнелы дол,
Уздыбіцца рака – і бераг левы,
І бераг правы зьнікнуць пад вадой.
Але адыйдзе гэтая навала,
І вусьцішнай убачыцца парой:
Наносны глей вадою размывала –
Паўсталі валуны зь зямлі сырой.
Праходзяць дні... У сэрцы акрыялым,
Як выхады глыбінныя парод,
Паўстануць да балючага выяўна
Твае – Айчына, Маці і Народ.

## Галіна Звонка

**Пасьля сочынскіх перамоваў Лукашэнкі й Пуціна, што адбыліся ў сярэдзіне верасьня 2003 г.,"наш" выйшаў з кіслым тварам, нібы аскоміну набіўшы. Добра, відаць, насеў на яго сусед з Расеі – ні выкруціцца, ні ўцячы. Але сам у тым ніннаваты, што захацеў памяняць сваё лыка на чужога індыка. З гэтай нагоды й склалася мая байка.**

### Як Грышкаў сын лыка на індыка мяняў

Ну й лахануўся Грышкаў сын:
Мяняе царства на рубель.
А дзе падзецца – свой апошні "блін"
За злучку вымушан аддаць кабель.
Маньцеліць языком, што памялом,
А воз ні ўперад: і ні стаць, ні сесьці.
Вось да чаго распуцтва давяло
І галава, якая ня ў тым месцы.
І лапці зьдзёр, і лыка сьцёр,
І сьмеху нарабіў даволі,
І лбом упёрся, і штаны працёр,
І па сьцяне размазаў нашу долю.
Дзясятак год, як зь пісанаю торбай,
Насіўся ён з "саюзам" ды з грашамі.
І ўрэшце рэшт з аплёванаю мордай
Застаўся і з асьлінымі вушамі.

* * *

Мяняў ён лыка на індыка,
І ўзводзіў цэнь ён на плячэнь,
І захлынаўся ўладным крыкам,
І думаў, што народ, як пень.
Пускаў ён сьлінкі і трылузіў:
"Дадзём мы Захаду адпор!"
Да дзірак мікрафон зьлюзіў,
А беларус ад сьмеху мёр.
Цяпер схуднеў, бо за плячыма
Ня мех з-пад бульбы – дзікі страх.
І словы ўсе – гарох нікчэмны,
І безнадзейнасьць у вачах.
Чаго хацеў – усё зьбылося.
Аб чым так млеў – усё ў цябе.
А кошт таго, што прадалося –
Крыж на кар'еры й на сабе!

**А гэты верш пра нашых дамарошчаных "дэмакратаў" і "апазыцыянэраў" ды пра "незалежных" выдаўцоў, якія спэкулююць на бедах беларусаў.**

* * *

Ня сыпць "апазыцыя" ў шапку –
Кладзецца дзячом пад уладу.
Глядзіш, "дэмакраты" ўжо з папкай
Цяўпуцца за ўладаю ззаду.
Народ разумее, дзе здрада,
Глядзіць ён на іх хітрым вокам:
– Скульля табе, "новая ўлада"!
Падман твой табе-ж выйдзе бокам!

Юры Весялкоўскі

# Хто каго вучыў?

*Працяг. Пачатак у № 51, 52.*

Прафэсар В. Морфіл у сваёй кніжцы на ангельскай мове падае: "Беларусы былі найбольш цывілізаванай нацыяй на Ўсходзе Эўропы. На беларускай мове дайшлі да нас сапраўдныя дакументы, якія выдавалі польскія каралі сваім падданым у XV-XVI ст. ст." ("Поляндъ", Лёндан, 1893 г. ст. 14).

Польская мова ў той час была яшчэ бедная, каб можна было на ёй нешта пісаць. Палякі карысталіся лацінай. Да XVI ст. уся дзяржаўная дакумэнтацыя пісалася ў Польшчы на незразумелай для народу лацінскай мове. Гэта падцьвярджае верш, напісаны Янам Казімірам Пашкевічам на свабоднай ад тэксту старонцы Літоўскага Статуту 1529 г:

*Полска квитнет лациною,*
*Литва квитнет русчизною;*
*Без той в Полсце не пребудеш,*
*Без сей в Литве блазнем будеш,*
*Той лацина езык дает,*
*Та без Руси не вытрвает.*
*Ведзь же юж Русь, иж тва хвала*
*По всем свете юж дойзрала;*
*Весели ж се ты, Русине,*
*Тва слава нигды не згине!*

І гэтак у 1420 г. у Кракаве на тагачасную беларускую мову быў перакладзены Варцкі статут, а ў 1423 годзе - Вісьліцкі. Польскі вучоны праф. Грабец даводзіць, што ў творах польскага пісьменьніка М. Рэя ёсьць беларускія і ўкраінскія элемэнты. А польская дасьледчыца Г. Сафарэвіч напісала спэцыяльную навуковую працу пра ўплыў беларускай мовы на польскую.

Гэтаксама беларуская культура зрабіла вялікі ўплыў на разьвіцьцё культуры сучаснага літоўскага народу, бо іхныя продкі, усходнія балты, лічы, да XVI ст. былі непісьменныя. Вось што пісаў на гэтую тэму польскі навуковец У. Вяльгорскі: "Мова беларуская была ў той час мовай асьвечаных кругоў Літвы. Пра гэта трэба памятаць. Пацягнула яна за сабою просты народ літоўскі з тае прычыны, што дала яму доступ да слова адукаванага..." ("Польска і Літва", Лёндан. 1947 г. ст. 94-95). Тое самае сцьвярджае літоўскі акадэмік Костас Карсакас: "Беларускі народ зрабіў вялікі ўклад на культурнае разьвіцьцё літоўскага народу. Літоўцы заўсёды з удзячнасьцю ўспамінаюць той факт, што беларусы далі літоўцам пачатак пісьменнасьці". Зьяўленьне літоўскай пісьменнасьці было зьвязанае з пашырэньнем рэфармацыі - барацьбы супраць каталіцкай царквы. Першая кніжка на літоўскай мове была выдадзеная ў 1547 г. у Кенігсбэрзе (Прусія). Былі гэта "Катэхізму простыя словы" лютэранскага сьвятара Марцінаса Мажвідаса.

У канцы XV - пачатку XVI ст. ст. беларуская літаратура настолькі разьвілася, што сталася пасярэднікам паміж эўрапэйскімі літаратурамі. Яе пераклады рыцарскіх раманаў, аповесьцяў, хронікаў і навуковых твораў тае пары служылі для перакладаў у Маскоўскім княстве. Захавалася пэўная колькасьць тагачасных друкаваных помнікаў, граматаў, юрыдычных дакумантаў, рукапісных кнігаў на старабеларускай мове. Была гэта ўжо беларуская літаратурная мова, зразумелая для ўсіх жыхароў ВКЛ. Пасол Рэчы Паспалітай у Рыме Эразм Цёлэк у 1501 г. гаварыў папу Аляксандру VI пра беларускую мову: "Літоўцы маюць уласную мову. Але дзеля таго, што русіны насяляюць сярэдзіну дзяржавы, дык усе звычайна карыстаюцца іхнай мовай, бо яна больш далікатная й больш лёгкая". Адносна беларускай мовы тае пары расейскі гісторык Бяссонаў піша: "Мову сваю дала Беларусь большай часткі іншых... народнасьцяў, з мовай - пісьменнасьць, тым і іншым - цэлы сьвет поглядаў, а з гэтым ... - усе астатнія самабытна-цывілізуючыя пачаткі..."

Як бачым з гістарычных фактаў, беларуская мова ў той далёкі час была мовай дзяржаўнай, мовай культуры, была той крыніцай, зь якой чэрпалі веды нашыя суседзі. Беларуская мова была пашыраная многа далей за межы сучаснай Беларусі. Як падае "Беларускі Сялянскі каляндар на 1938 год" (Вільня, ст. 40): "Беларуская мова пашырыная далёка на ўсход. Карта ўсходне-славянскіх дыялектаў (гутарак), уложаная Маскоўскай Дыялектычнай Камісіяй, адзначае, што беларускія з асновы дыялекты (гутаркі, гаворкі) пашыраныя амаль ва ўсёй Смаленшчыне і ў большай часткі Калускай губэрні. Беларускія ўплывы на расейскія гаворкі адзначаныя на гэтай мапе амаль ва ўсёй Пскоўскай губэрні, у паўднёва-заходняй частцы Цьверскай губ. і нават у паўднёвай прыгранічнай паласе Ленінградзкай губ".

Далейшыя гістарычныя падзеі склаліся так, што над беларускай мовай ейныя суседзі, палякі ды расейцы, зрабілі зьдзек. Яе забаранілі ўжываць і нават зрабілі яе "дыялектамі" свае мовы. У 1697 г. у Рэчы Паспалітай беларуская мова была замененая польскай і ў дзяржаўным, і ў грамадзкім справаводзтве, і адгэтуль пачаўся занапад нашае мовы. У канцы XVIII ст. Беларусь была занятая Расеяй, ейны імпэрскі ўрад не прызнаваў беларускі народ за асобную нацыю, а беларускую мову лічыў "русским наречием".

Так што няпраўду пісалі савецкія гісторыкі й літаратуразнаўцы, калі сьцьвярджалі, што праз аб'яднаньне зь "вялікім русскім народам" беларусы і ўкраінцы атрымалі пэрспэктыву захаваньня й разьвіцьця нацыі, ейнай мовы, літаратуры, культуры й нібыта ўратаваліся ад паланізацыі й рэлігійнага прыгнёту. Калі, можа, і ўратаваліся ад паланізацыі, дык накінулі на сябе яшчэ большы прыгнёт - русыфікацыю.

*Працяг будзе*

# Мартыралёг Віленскага краю

76. Емельяновіч Лаўрэнцій Лукіч, 1883 г., нар. в. Гулі (Жаснянскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на, член калгаса "Власть труда". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
77. Жадзейка Уладзімір Лявонцьевіч, 1903 г., ур. Віленскай губ., жыў у г. Томску, настаўнік няпоўнай школы працоўнай калоніі № 3. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
78. Жук Якаў Абросімавіч, 1885 г., нар. в. Сакаўшчына Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Зыранаўскае, сталяр на будаўніцтве школы. Арыштаваны ў 1931 г. Асуджаны на 3 гады ссылкі ў Краснаярскі край.
79. Журавец Канстанцін Мацвеевіч, 1900 г., нар. в. Сакаўшчына (Віленскай губ.), жыў у г. Томску, цырульнік. Арыштаваны ў 1931 г. Асуджаны на 3 гады лагераў.
80. Жынь Уладзімір Мікалаевіч, 1905 г., нар. в. Галубенічы Віленскай губ., жыў у г. Новасібірску, загадчык забеспячэння Інстытута металаў. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
81. Завадскі Ігнат Ігнатавіч, 1903 г., нар. г. Вілейка Віленскай губ., жыў у в. Каргасок, загадчык гаспадаркі райспажыўсаюза. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
82. Закржэўскі Казімір Іванавіч, 1886 г., нар. г. Дзісна Віленскай губ., жыў у г. Томску, вул. Нячаеўская, 72-3, пісар губпрынаддзела. Арыштаваны ў снежні 1921 г. У маі 1922 г. па пастанове судовай Калегіі ОГПУ заключаны ў лагер да абмену з Польшчай.
83. Закржэўскі Фама Вікенцьевіч, 1885 г., нар. м. Празаровічы Дзісенскага павета Віленскай губ., жыў на ст. Тайга, саматужнік. Арыштаваны ў снежні 1921 г. У маі 1922 г. па пастанове судовай Калегіі ОГПУ заключаны ў лагер да абмену з Польшчай.
84. Залескі Аляксандр Казіміравіч, 1874 г., нар. в. Аснова Бельскай вол. Лідскага павета Віленскай губ., жыў у в. Каргасок, займаўся возніцтвам. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
85. Запаснікаў Елісей Віктаравіч, 1892 г., нар. в. Забалотцы Віленскай губ., жыў у г. Томску, кравец Ваенгандлю. Арыштаваны ў 1937 г. Асуджаны на 5 гадоў ППЛ і 3 гады пазбаўлення правоў.
86. Зарэмба Барыс Мікалаевіч, 1887 г., ур. Віленскай губ., жыў у в. М. Жырава Туганскага р-на, член калгаса "Трудовая артель". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
87. Здановіч Станіслаў Вікенцьевіч, 1882 г., нар. м. Жалудок Лідскага павета (Віленскай губ.), жыў у г. Калпашава, бухгалтар участковай камендатуры НКВД. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
88. Іваноўскі Адольф Іосіфавіч, 1893 г., нар. в. Панчышы Віленскай губ., жыў у в. Петрапаўлаўка Крывашэінскага р-на, член калгаса "Сила большевика". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
89. Іваноўскі Аляксандр Гаўрылавіч, 1880 г., нар. в. Обшчычы Віленскай губ., жыў у в. Петрапаўлаўка, рымар калгаса "Сила большевика". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
90. Іваноўскі Віктар Іосіфавіч, 1898 г., нар. в. Панчышы Віленскай губ., жыў у в. Петрапаўлаўка, член калгаса "Сила большевика". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
91. Івашкевіч Станіслаў Вікенцьевіч, 1893 г., нар. м. Глыбокае (Віленскай губ.), жыў у г. Томску, шавец. Арыштаваны 1937 г. Расстраляны.
92. Ільін Аляксандр Ільіч, 1875 г., нар. г. Ліда Віленскай губ., жыў на ст. Балотнае Томскай чыгункі, рэвізор аддзела эксплуатацыі. Арыштаваны ў 1928 г. Пазбаўлены права пражывання ў 6 н. п. з прымацаваннем да сталага месца жыхарства тэрмінам на 3 гады.
93. Іоч Аляксандр Казіміравіч, 1863 г., нар. в. Юцеўцы Лідскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Беласток Крывашэінскага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Памёр у час следства ў турме г. Калпашава.
94. Кавалевіч Аляксей Іванавіч, 1887 г., нар. в. Шыпулічы Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Кайбінка Туганскага р-на, член калгаса ім. Рудзутака. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
95. Кавецкі Антон Васільевіч, 1888 г., нар. в. Пляшкуны Віленскай губ., жыў у в. Полазава Крывашэінскага р-на, калгаснік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
96. Казакевіч Вінцэнт Рыгоравіч, 1905 г., нар. в. Філіпінета Віленскай губ., жыў у г. Томску. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
97. Казакевіч Казімір Антонавіч, 1886 г., ур. Віленскай губ., жыў у в. Ламавіцкая Пышкіна-Троіцкага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1930 г. Расстраляны.
98. Каладынскі Іосіф Венядзіктавіч, 1907 г., нар. м. Браснава Віленскай губ., жыў у г. Томску, рабочы псіхіятрычнага шпіталя. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
99. Карпіновіч Іосіф Мацвеевіч, 1910 г., нар. в. Марозкі Віленскай губ., жыў у в. Цірцяеўка Асінаўскага р-на, рахункавод калгаса "Ударник". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
100. Катковіч Васіль Вікенцьевіч, 1892 г., нар. в. Старыя Габы (Жаснянскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на, член калгаса "Власть труда". Арыштаваны ў 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў ППЛ і 5 гадоў пазбаўлення правоў.
101. Качан Канстанцін Васільевіч, 1904 г., нар. в. Барсукі Віленскай губ., жыў на Прадцечанскім пераездзе, без акрэсленых заняткаў. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
102. Квач Мечыслаў Францавіч, 1888 г., нар. в. Квачы (в. Квачэ Дзісенскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Ламавіцкае, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
103. Квач Уладзіслаў Феліксавіч, 1872 г., нар. в. Квачы (в. Квачэ Дзісненскага ўезду) Віленскай губ., жыў у в. Ламавіцкае, калгаснік. Арыштаваны ў 1938 г. Растраляны.
104. Клімаў Якім Емяльянавіч, 1895 г., нар. в. Дракі Віленскай губ., жыў у в. Кучукава Зыранскага р-на, загадчык гаспадаркі пенькazавода. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
105. Копчынскі (Капчынскі) Вінцэнт Фролавіч, 1886 г., ур. Віленскай губ., жыў у в. Круталожная Пышкіна-Троіцкага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1930 г. Расстраляны.
106. Круповіч Адам Вячаслававіч, 1884 г., нар. в. Пяскі Лідскага павета (Віленскай губ.), жыў у г. Томску, кандытар Нархарчломтрэста. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
107. Крупянчук Аўгусцін Вікенцьевіч, 1893 г., нар. в. Гедзевічы Вілейскага павета (Віленскай губ.), жыў у г. Томску, бондар нарыхтоўчай арганізацыі "Крайплодовощ". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
108. Кулак Іван Мікалаевіч, 1905 г., нар. в. Родзічы Віленскай губ., жыў у в. Ціміразева, трактарыст. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
109. Кулаковіч Васіль Рыгоравіч, 1910 г., нар. пас. Верамейкі Віленскай губ., жыў у в. Апсагачава Асінаўскага р-на, настаўнік НСШ. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
110. Кулаковіч Міхаіл Рыгоравіч, 1912 г., нар. в. Верамейкі Віленскай губ., жыў у г. Томску, каваль мельзавода. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
111. Купрэвіч Мацвей Мікалаевіч, 1903 г., ур. Віленскай губ., жыў у пас. Краснаярск Крывашэінскага р-на, пажарнік лесазавода. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
112. Ландышка Франц Якаўлевіч, 1885 г., нар. в. Кеўлічы Віленскай губ., жыў у Туганскім р-не, член калгаса "Красный Октябрь". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
113. Лапідус Юрый Барысавіч, 1912 г., нар. г. Радашковічы (Вілейскага павета Віленскай губ.), жыў у г. Калпашава, кравец арцелі інвалідаў "Цветущий Север". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
114. Ласоўскі Іван Яўхімавіч, 1873 г., нар. в. Лашчукі (в. Лашукі Дунілавіцкай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у г. Томску, вартаўнік Сібгандлю. Арыштаваны ў 1936 г. Асуджаны на 10 гадоў ППЛ.
115. Лашчук Сцяпан Іванавіч, 1868 г., нар. в. Старыя Габы (Жаснянскай вол., Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на, без акрэсленых заняткаў. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
116. Леановіч Ігнат Данілавіч, 1873 г., нар. в. Старыя Габы (Жаснянскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на, без акрэсленых заняткаў. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
117. Леановіч Пётр Данілавіч, 1870 г., нар. в. Старыя Габы (Жаснянскай вол., Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на, не працаваў. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
118. Лекарэвіч Клімент Іванавіч, 1897 г., нар. в. Ерэва Віленскай губ., жыў у в. Нікіфараўка, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
119. Лісоўскі Іван Лаўрэнцьевіч, 1880 г., нар. в. Узболет Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у г. Томску, афіцыянт рэстарана. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
120. Літвін Антон Лаўрэнцьевіч, 1881 г., нар. в. Грыневізна Віленскай губ., жыў у в. Майкава Крывашэінскага р-на, член калгаса. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
121. Літвін Карл Лаўрэнцьевіч, 1876 г., нар. в. Грыневізна Віленскай губ., жыў у пас. Малінаўка, член калгаса "Красный Октябрь". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
122. Лужынскі Лука Міхайлавіч, , 1890 г., нар. в. Журовічы Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Асіна, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
123. Лужыцкі Фёдар Міхайлавіч, 1890 г., нар. в. Журовічы Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Асіна, упаўнаважаны Томскай міжрайканторы "Главптицепром". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
124. Лукашэвіч Браніслаў Іванавіч, 1886 г., нар. в. Юрацішкі Віленскай губ., жыў у пас. Верх-Карга Парабельскага р-на, член арцелі "Прогресс". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

*Працяг будзе*

*Генадзь Лех*

# РАСЕЯ – ЯКАЯ ЯНА ЁСЬЦЬ

*Працяг са старонкі 1*

іншавернага, у тым ліку масульманскага, насельніцтва. Практычна "нулявы" прызыў з Масквы ды Піцеру, з буйных гарадоў, дзе амаль пагалоўна "косяць" ад войска й на кожнай сцяне ў мэтро напісана, як гэта зрабіць. Таму "гарматнага мяса не хапае", і было-б сумна, каб гэты дэфіцыт быў пакрыты беларускай крывёй, крывёй сына даяркі, навучэнца магілёўскага ПТУ, якая спадзяецца на паляпшэньне жыцьця праз "саюз", а патэнцыйна можа атрымаць труну....

Складваецца нават уражаньне, што стан вайны падтрымлівае расейскую імпэрскую мэнтальнасьць і, як толькі скончыцца вайна ў Чэчэніі, яе пачнуць у іншым мейсцы, можна чакаць – і за транзытныя шляхі праз Беларусь, бо тут ужо ўвязаныя даходы расейскіх алігархаў.

### 3. Пра эканоміку

Існуе й актыўна падтрымліваецца дзяржаваю міт аб "рыночной России". Але ў сапраўднасьці гэта ня так. У сапраўднасьці эканоміка РБ ня так ужо моцна адрозьніваецца ад эканомікі РФ, асабліва, у сфэры буйной прамысловасьці й дзяржзаказаў. Сучасная эканоміка РФ цалкам збудаваная на сыстэме "адкатаў". Фірмы-пастаўшчыкі мусяць рабіць "адкат"(хабар) мэнэджэрам фірмы-пакупніка, найперш, дзяржаўнай або напалову дзяржаўнае карпарацыі. Жадаеш атрымаць кантракт ад буйнога канцэрну – плаці "адкат", хто больш прапануе, той і атрымае. Мытня – адкат, ліцэнзія – адкат, усе – адкат. Кошт самага кантракту ў РФ мае меншае значэньне, чым памер "адкату". Гэта ўжо зусім ня рынкавы парамэтар.

Генэралы маюць "адкаты" на тэндарах для войску. Дзяржчыноўнікі набываюць за мяжой тыя лекі або курэй, якіх вырабляюць і ў РФ, нават таньней, але фірмы-пасрэднікі, створаныя тымі самымі чыноўнікамі, плацяць "адкат". Пры кожнай мытні створаныя свае мытныя фірмы, якія вырашаюць усе справы кліентаў за адваедную плату, большая частка якой, зразумела, ідзе на "адкат". Фірмы-экспарцёры вяртаюць ПДВ (НДС), але-ж ня цалкам, розьніца ёсьць "адкат". У РФ 21 млн. чыноўнікаў і ўсе яны жывуць не на заробак, а на "адкаты". Прычым у большасьці выпадкаў гэта робіцца досыць адкрыта: не заплоціш – ня зрушыш ніводнае справы. Пры апошнім уладары РФ быў узяты курс на падвышэньне ролі дзяржавы ў эканоміцы. Шэраг буйных прыбытковых прадпрыемстваў праз так званы "перадзел маемасьці" быў вернуты пад крыло Газпрама або РАО ЕЭС. У хуткім часе гэтыя прадпрыемствы сталі страчваць сваю прыбытковасьць, бо кіруючыя каманды мэнэджэраў ад гэтых дзяржаўных манаполіяў, у складзе былых генэралаў, пракурораў, касманаўтаў ды іншых дзяржчыноўнікаў, прыходзячы на "пастой" на некалькі месяцаў на падобны камбінат, – адкрыта імкнуцца забясьпечыць сваё і сваіх унукаў фінансавае становішча. На мэталюргічным "градообразующем" авіяпрамаўскім камбінаце ў Маскоўскай вобласьці напрацягу ўжо двух гадоў б'юцца каманды мэнэджэраў, што прадстаўляюць аднаго уласьніка – Газпрам або дзяржаву. Двум генэралам дапамагаюць "амапы", суды і г. д. і кожны зь іх захоплівае на 2-3 месяцы, па чарзе, камбінат, які раней быў адабраны ў прыватніка.

Падаткі. Ад падаткаў у РФ бегаюць абсалютна ўсе прадпрыемствы незалежна ад формы ўласнасьці. Толькі насельніцтва плоціць больш менш спраўна, але-ж яно самае безабароненае й залежыць ад сьвету, вады, цяпла ды пэньсіі. Бугальтар – адна з самых аплочваемых прафэсіяў. Сучасны бугальтар вядзе "чорную", "шэрую", "белую" бугальтэрыю. Самыя вядомыя расейскія канцэрны маюць па некалькі (часам дзесяткаў) юрыдычных асобаў. Дапамагаюць тут фірмы-аднадзёнкі, якімі абкладваюцца расейскія банкі, зарэгістраваныя часьцей на не існуючых або памерлых людзей, г. зв. "сінякоў". Падатковая паліцыя, створаная ўладамі РФ і зараз ужо ліквідаваная, існавала ня столькі для збору падаткаў, колькі дзеля самазабясьпечаньня праз "адкаты".

Пра вываз капіталу з РФ і потым ягонае, часткова "адмытае", вяртаньне ў выглядзе інвестыцыяў напісана шмат.

Найбольш рынкава у РФ працуе дробны ды сярэдні бізнэс, асабліва ў сфэры гандлю, бытавое абслугі й малараэнтабельнай вытворчасьці. Самае сьмешнае, што калі ў гэтых галінах плаціць ўсе падаткі, дык гэтыя сфэры зробяцца непрыбытковымі. Найбольш спраўна плоцяць падаткі й сумленна працуюць прадпрыемствы заходніх фірмаў, пабудованыя нанова: у голым полі (Макдональдсы, Марсы й г.д.) без удзелу расейцаў, але-ж доля гэтых прадпрыемсваў у гадавым абароце РФ мізэрная. Да таго-ж выпадак з забойствам амэрыканскага ўласьніка гатэлю "Рэдысон-Славянская" (маёмасьць перайшла да свайго расейскага чэчэнца пры падтрымцы маскоўскга мэра) абмежаваў прыток буйных заходніх інвестыцыяў.

Пра тое, як ішла "прыхватызацыя" ў Рф, напісана досыць шмат. Не хацелася-б, каб падобная "прыхватызацыя" паўтарылася ў Беларусі. У першай палове 90-х гг. на шматлікіх акцыянаваных прадпрыемствах, дзе стабільна ня выплочваўся заробак, можна было назіраць малюнак, як на прахадных дзьве-тры фірмачкі, "бандыцкія" або "дырэктарскія", скупалі акцыі працоўнага люду, выкарыстоўваючы пры гэтым зарабатны фонд. Такім чынам, людзям далі акцыі й адразу-ж забралі іх за іхныя заробакі. Сабраныя такім чынам буйныя пакеты акцыяў былі прададзеныя ва ўласнасьць банкам або фінансавым групам, якія сабралі грошы зь людзей на "фінансавых пірамідах". Былі й іншыя схемы. Так вось узьніклі цяперашнія расейскія алігархі.

Усе дэфіцыты расейскае эканомікі пакрывае нафтагазавая "труба", як і за часоў СССР. Але Беларусь, што ня мае такой крыніцы расейскага варыянту "прыхватызацыі" ды "эканомікі", проста ня вытрымае...

### 4. Пра расейскую навуку або "А кароль-жа голы!"

Пра расейскую навуку, пра ейны сусьветны ўзровень шмат гаворыцца, расейскія ўлады надзімаюць шчокі, але ў сапраўднасьці сучасная расейская навука амаль ужо памерла (кароль, сапраўды, голы!) Дастаткова зазірнуць на тэрыторыю маскоўскіх НДІ (Навукова-дасьледчых інстытутаў). Часам гэта: сакратарка, дырэктар, сантэхнік, электрык, бугальтар у некалькіх пакойчыках, і астатняя тэрыторыя, здадзеная ў арэнду (часам прададзеная) камэрцыйна-гандлёвым структурам, офісы, прыватныя паліклінікі й г. д. У правінцыі справы яшчэ больш горшыя. Існуюць ужо цэлыя галіны навукі, дзе ў РФ не засталося ніводнага спэцыяліста: маладыя зьехалі за мяжу або перакваліфікаваліся ў гандляроў, старыя памерлі. Аспірантуры даўно ужо пустыя, шэраг навуковых саветаў або спынілі існаваньне, або гадамі не зьбіраліся.

У маскоўскім раёне Сетунь яшчэ фармальна існуе Ўсерасейскі (некалі Ўсесаюзны) інстытут лёгкіх сплаваў (былая галоўная авіяпрамаўская "паштовая скрыня") – ВІЛС. Калісьці інстытут меў нават вядомы хакейны клюб "Крылы Саветаў", архітэктарам упрыгожваньня тэрыторыі працаваў сусьветнавядомы Эрнэст Неізьвестны, інстытут быў галоўным у распрацоўцы новых матар'ялаў ды тэхналёгіяў іх вытворчасьці для авіяцыі, космасу, абаронкі. У інстытуце працавала некалькі тысячаў навуковых супрацоўнікаў ды некалькі тысячаў спэцыялістаў на вопытным заводзе пры інстытуце вырабляла новую навукоёмістую прадукцыю. Інстытут меў разнастайныя ільготы й г. д. Ён выстаяў у часе "перабудовачных" працэсаў пры Гарбачове, але расейскую "прыхватызацыю" перажыць ня здолеў. Зрэшты, паводле закону, інстытут не падпадаў пад "прыватызацыю", але хіба у РФ нехта трымаецца закону? Пры прэм'еры Гайдары расейскія дэмакраты перашкодзілі спробам дырэктара ды ягонага намесьніка "прыхватызаваць" прадпрыемства. Прычым "прыхватызатараў" цікавіла не навука, а велізарная тэрыторыя прадпрыемства (ў Маскве!), завод пры інстытуце, які вырабляў тытанавыя, нікелевыя, алюменевыя ды іншыя вырабы. Дырэктар прадпрыемства Бондараў запрасіў новага на той час прэм'ера В. С. Чарнамырдзіна на хакей, на вар'етэ ды ў лазьню ў тых самых "Крылышках" – і дазвол на "прыхватызацыю" новы "камунацэкоўскі" прэм'ер даў. Калектыву паабяцалі вялікія заробкі й большасьць калектыву прагаласавала за "прыхватызацыю", бо абяцалі-ж – будзем двух матак смактаць: дзяржаву – за навуковыя распацоўкі й самі зарабляць – на экспартных пастаўках. Савецкія людзі былі трохі наіўныя. Потым паўтарылася тая самая схема, што й паўсюль: заробкі не падвысілі, а пачалі затрымліваць, у зьвязку з тым, што ВІЛС зрабіўся АО, дзяржава спыніла фінансаваньне навукі – і "першая матка" адмовіла дзіцяці. На прахадной зьявіліся дзве фірмачкі, адна дырэктарская, другая намесьніка, і пачалі скупаць акцыі. Людзі, не атрымаўшы заробку, прадавалі іх амаль задарма – за свой-жа заробак...

### 5. Пра дэмакратыю

Расея ўсяму сьвету дэманструе свой дэмакратычны фасад, але ў сапраўднасьці з кожным годам ён ўсе бліжэй да беларускага – увесь цымус тут у іміджмэйкерах ды рэкляме. Рэальная дэмакратыя прайснавала ў Расеі нядоўга: апошнія гады Гарбачова ды першыя 5 гадоў кіраваньня Ельцына. Пры сёньняшнім уладары РФ каналы ТВ – усе дзяржаўныя, ужо не пачуеш з экрану тэлевізара крытыкі, выказваньняў незалежных аналітыкаў, рэйтынгаў. Выступы прадстаўнікоў апазыцыйных партыяў дазуюцца й рэжуцца, улада ўсе актыўней умешваецца ў выбары, падрэзваючы праз Цэнтравыбаркам ды суд непатрэбных.

У сапраўднасьці, сёньняшняе становішча дэмакратыі ў РФ усё больш нагадвае беларускае, проста часам выкарыстоўваюцца не адміністрацыйныя рычагі, а судовыя, фінансавыя ды падатковыя й, як раней, тэлефоннае права. Чым далей ад Масквы, тым мацней падобны ўціск. Залежныя цяпер ад Крамля СМІ усё часьцей выступаюць згодна прынцыпу : "Ў Багдадзе ўсе спакойна, спакойна..", г. зн. "Жить стало лучше, жить стало веселее!", "Стан эканомікі паляпшаецца", – пры наяўнасьці зусім іншых працэсаў. Пуцін на гэты конт выказаўся, што "час рэвалюцыяў прайшоў". Можна дадаць – час расейскай дэмакратыі прайшоў, застаўся толькі зьнешні фасад.

### 6. Пра "саюз" ды "славянскае адзінства"

У адрозьненьні ад РБ, у РФ ніколі не было прапаганды "славянскага адзінства" ды "саюзнай дзяржавы". Пра гэта прыгадвалі толькі падчас сустрэчаў Лукашэнкі з уладарамі РФ. Пастулят славянскага адзінства ўвогуле непрымальны для сучаснага расейца. Расейская імпэрыя ніколі не была славянскай краінаю.

Тут трэба сказаць, што ў Маскве жыве амаль паўтары мільёны пашпартных татараў (ня толькі казанскіх, але сыбірскіх ды іншых), а яшчэ больш за мільён іншых масульманаў. Іслам, разам з праваслаўем, зьяўляецца паўнавартаснай дзяржаўнай рэлігіяй РФ. Паводле розных падлікаў у РФ каля 50 млн. масульманаў ды будыстаў.

Па-другое, расейцы ніколі не лічылі сябе часткай славянскага сьвету й проста чыей-небудзь часткай. Яны шмат часьцей кажуць аб "Русском мире". І гэта зразумела сучаснаму расейцу. Больш таго, калі кажуць аб славаках, чэхах, паляках, славенах, харватах і пад., – тэрмін "славянскі" амаль не ўжываецца. Калі тут апытваць на вуліцах, дык 9 з 10 могуць запытаць: "А што, чэхі гэта славяне?" Сучасны расеец заўседы зьверху глядзіць на ўсе славянскія народы ды іхныя дзяржавы, ён нават паставіць сябе вышэй за славяніна. Сапраўды, усе славянскія народы ёсьць эўрапейскія, як і іхныя дзяржавы, расейцы-ж – нацыя эўраазійская, тут іншая мэнтальнасьць, набытая ад Залатой Арды, іншы размах. Таму пытаньне "саюзнай дзяржавы", якое так набіла аскоміну беларусам праз беларускія дзяржаўныя СМІ, у РФ усяго адзін з мноства палітычных вэктараў і пра гэта проста немагчыма ўвесь час талдычыць. Ельцын падпісаў саюзную дамову, зрабіўшы чарговы прапагандысцкі крок. Расейцы ніколі не пагодзяцца на нейкую надстройку над расейскім пірагом, які даўно ўжо падзелены й перадзелены, але яны з задавальненьнем, згодна свае мэнтальнасьці, адкусяць кавалак чужога. Гэтую "саюзную дамову" ніхто ўсур'ёз не ўспрымаў, яе выкарыстоўвалі толькі для набыцьця палітычнага капіталу ад постсавецкага грамадзтва. Але "савецкае" ў РФ хутка памірае, і становішча ўжо не такое, як пяць гадоў таму. Нават камуністы ў РФ больш ня робяць капітал на "саюзе". Таму савецкую маску можна адкінуць і вярнуць сваё больш традыцыйнае ардынска-імпэрскае аблічча. Што Пуцін і зрабіў.

### 7. На заканчэньне

У РФ свой гістарычны шлях, у Беларусі свой. І зараз гэтыя шляхі йдуць у розныя бакі. Час гульняў прайшоў. Усё астатняе з боку Беларусі гэта гвалт над самой сабой. Расея глядзіць на Беларусь, як драпежнік на кавалак мяса. Часам хочацца сказаць: "Хлопцы, вы з кім у гульні гуляеце? Як толькі што – ад вас і шматка не застанецца!" Таму, калі сустракаеш у Маскве якога-небудзь "пана спарцмэна" з фракцыі "Рэспубліка", які так "перажывае" зацікаўленасьць якога-небудзь "Сургутнефтегаза" нафтагазавай маемасьцю ў Беларусі, ці глядзіш па тэлевізары сустрэчу расейскай і беларускай палітычнай эліты ў гатэлі "Залатое кола" ў Маскве, на якой дрэнна апранутым "уладным калгасьнікам" зь Беларусі адкрытым тэкстам прапануюць грошы за продаж сваей краіны, а яны ў адказ ня могуць нічога сказаць і паказаць, акрамя "саюзных сопляў", – робіцца сумна, бо ўлада ў Беларусі знаходзіцца ня ў тых руках, а ў руках людзей, чыя адукацыя, далягляд ды розум прымушаюць жадаць лепшага. У сапраўднасьці, РФ не жадае, дый ня будзе плаціць гэтым "калгасьнікам", яны не атрымаюць сваіх камісыйных пры любым раскладзе.

У Беларусі ёсьць толькі эўрапэйскі шлях. У Расеі свой – эўразійскі.



Партрэт Кастуся Акулы з калекцыі Анатоля Белага.

# Каб жыла Беларусь!

## Думкі з нагоды 78-годзьдзя з дня нараджэньня Кастуся Акулы

Працяг са старонкі 1

* * *

Час карэктуе нашае жыцьцё, уносіць зьмены ў грамадзтва, лад і прыроду, ён выпраўляе паводзіны, зьменьвае думкі. Час ня можа толькі паўплываць на волю чалавека, які прысягнуў Госпаду й Радзіме сваёй. У шолаху дзесяцігодзьдзяў мы чуем натхнёны, поўны моцы, сьмеласьці й аптымізму голас паэта-беларуса Кастуся Акулы:

*Бярыся за справу! Ня трэба чакаць!*
*І дружна прыкінься за справу сваю!*
*Аб шчасьці прыпомні! Жыцьцё не жалей!*
*Май гонар палегчы за вольнасьць дзяцей!*

Вось радкі – прыклад для перайманьня, вывучэньня, захаваньня. Чалавек ня думае пра сябе, ён згодны згарэць дзеля вольнасьці дзяцей – будучыні Беларусі. Паэтычнаю моваю К. Акула тлумачыць нам: "У мяне была радзіма, няхай пакрыўджаная, скалечаная, патаптаная і прыніжаная. Такой яна жыве ў маёй памяці і вымушае дзеля яе не шкадаваць сябе. Але ў марах маіх жыве зусім іншая Бацькаўшчына – прыгожая, паважаная, сьпешчаная ўвагай і ўдзячнасьцю сваіх грамадзян, заможная... адна адзіная на цэлым Божым сьвеце зямелька, Я хачу падарыць дзецям і ўнукам сваім менавіта такую радзіму".

Сталее зямляк. Як плады пад восень наліваюцца сокам, так наліваюцца мудрасьцю словы, творы й дзеяньні Кастуся: "... І такім чынам і мы, людзі, здаецца, даўно пакрылі ўсю прыроду сьвету, заляцелі на Месяц, розныя свае цацы на Марс, Юпітэр, Вэнэру выслалі. Ого, героі! Непераможныя! Але вось надыйдзе бура, нейкі тарнада. Параскідае людзьмі змайстраваныя будынкі, як недарэчныя дзіцячыя цацы... Чалавек-гігант. Сябе побач, а то й вышэй Бога паставіў. Адно забыўся, што зямля, дый цэлая сонечная сыстэма, – мікраскапічная парошынка-макулінка ў сусьвеце. У прыродзе, асабліва-ж у магутнасьці стыхіі, Бога бачыш. І маркуеш тады пра Яго веліч і сваю слабасьць..." Гэтыя радкі – яскравае сьведчаньне духовай сілы Кастуся, ягонага немалога вопыту й пэдагагічнага ўменьня. Простай, свойскай мовай ён павучае нас. Павучае не аднекуль зьверху, а як роўны, крэўны беларус, які жыве побач і бачыць шлях выратаваньня праз Бога. Павучае не сухімі тэарызаваньнямі пастулятамі, а жывымі прыкладамі зямнога й свайго жыцьця. Ягоныя "Змагарныя дарогі" – гэта ня толькі па-майстэрску напісаная кніга, што ўвайшла ў сотню лепшых беларускіх твораў XX ст., гэта – акадэмія лёсу беларускай нацыі, рукатворны помнік патрыятызму й духовай вытрываласьці.

Нібы сьняжком, пацерушылі гады: засеребрыліся скроні ў Кастуся. Але душа – тая самая маладзёна: рухавая, узрушаная. Ці-ж ёй, гарэзе, нудзіцца за кратамі часу? Ці-ж ёй скласьці крыльле ды перастаць марыць пра волю? Не паддаецца яна гадам, як нявіньніца нялюбаму. Яна ў вечным пошуку, у вечнай працы. І чалавек, які зь ёй у згодзе, працуе па-ранейшаму, настойліва, плённа, шмат. Працуе, каб наблізіць сваю мару ды ступіць некалі на вольную беларускую зямельку.



Кастусь Акула падчас сьвяткаваньня Слуцкага Збройнага Чыну. Таронта, 2001 г.

* * *

У лістах да мяне Кастусёвы палымяныя жаданьні: "Прашу, малюся да Ўсявышняга, каб узнагародзіў усіх нас дый прагнаў з нашай зямлі тых, хто прыйшлі ад "лукавога", каб зьбылося аднаўленьне Беларускай Народнай Рэспублікі і поўніліся песьнямі, славячы Госпада, аднаўленыя народам зганьбаваныя Сьвятыні!"

Адчуваючы мой душэўны боль, Кастусь гаіў парэзы роднымі словамі: "Даражэнькая Галіна, памятай, што маланка ня б'е па сухіх і гнілых карчах. Яна б'е па верхавінах высокіх і магутных дрэў..." Так проста, так шчыра прымушаў паверыць у свае сілы, падняць галаву і з замілаваньнем сустракаць новы Брожы дзень:

*Я зганьбаваную Сьвятыню,*
*Як мог, што сілаў, аднаўляў.*
*На помач клікаў на чужыне,*
*Шляхі і вехі ўстанаўляў.*
*І блаславёны Усявышні*
*Нас верай, сілай надзяліў –*
*Народ наш на зямлі ня лішні!*
*Ён будзе жыць, як хваль прыліў!*

Ёсьць у словах, радках Кастуся Акулы своеасаблівы магнетызм, які заварожвае шчырасьцю, прастатой і душэўнасьцю, пранізвае верай і дае надзею: "Галіна, даражэнькая, ня надта хвалюйся, што побач здрада... Мы пераможам, бо любоў, дабрата, пашана, адданасьць пакрыўджаным і нямоглым, суцэльная і шчырая праца для дабра нашай Бацькаўшчыны ува ўсіх галінах ейнага жыцьця, – гэта зарука перамогі. І галоўнае: з намі Бог!"

Кастусь акрыляе праўдаю: "Трымайцеся! Ідзеце перамагаць, а не паміраць! І заўтра таксама ўзыйдзе сонца! Нам наканавана: любіць, цярпець, пашыраць добрае, вечнае – каб ужо ніколі-ніколі не панавалі ў нас злыдні..."

Кастусь – прыроджаны аптыміст, заўсёды жыве з гумарам. Але ягонае слова змушае сур'ёзна думаць, не спыняцца на паўдарозе, не пасаваць перад хамствам, уладным крыкам, пасуленай ласкай, цемрашальствам, здрадай....

* * *

Я шчасьлівая, што лёс зьвёў мяне з Кастусём. Мне цяпер здаецца, што мы не маглі не сустрэцца. У цяжкія хвіліны я падтрымліваю сябе ягонымі словамі:

*І заўтра таксама ўзыйдзе сонца,*
*І будуць людзі есьць і піць,*
*І ніхто із іх ня ўспомніць,*
*Як мы хацелі жыць...*

А сэнс жыцьця для мяне ў гэтых ягоных радках:

*Глядзіце, вунь зярно й мякіна –*
*Навука, як на сьвеце жыць...*
*Адзін жыве і след пакіне,*
*Другі жыве, каб насьлядзіць.*

Кожным днём свайго жыцьця, працы, намаганьняў, дабрачыннай самаахвярнай дзейнасьцю Кастусь пакідае адметны, глыбокі след на гасьцінцы Часу.

**Галіна Сутула**



5.05.1943 г. Баранавічы.
Дзяўчынка ў белай сукенцы пасярэдку групы – Івонка Сурвілла.

## ...Случчакі разумелі

якой каштоўнасьцяй ёсьць для кожнага народу воля й незалежнасьць, і вырашылі ісьці ратаваць беларускую незалежную джяржаву – Беларускую Народную Рэспубліку – хаця й добра ведалі, якім будзе асабісты кошт гэтага змаганьня. Пра гэта сьведчаць словы на сьцягу змагароў: "Пайшлі ўміраць, каб жыла Бацькаўшчына"... Нядаўна, 11 лістапада, глядзела, як Канада ўшаноўвае памяць сваіх герояў. Без танкаў і пераможных лёзунгаў, зь любоўю, павагай і ўдзячнасьцю. Хачу прасіць усіх Вас... каб належна ўшанавалі памяць сваіх дзядоў. Бо толькі, калі мы ўсе зразумеем тое, што ведалі Случчакі, толькі калі наш край станецца назаўсёды незалежным, толькі тады беларускі народ зажыве вольна, заможна й шчасьліва. Перад намі такая самая адказнасьць за будучыню нашай Бацькаўшчыны.

Старшыня Рады БНР **Івонка Сурвілла**

## Як бы там не было

а XXI стагодзьдзе ўжо ўпэўнена крочыць па нашай плянэце. Ужо не аднаму ўелася ў косьць да самага шпіку, нават цэлым дзяржавам. Падабаецца каму ці не падабаецца новае тысячагодзьдзе, але яно робіць сваю гісторыю й свае карэктывы ў ёй. Тут першыя сакратары кампартыяў ды прэзыдэнты ні пры чым, тут нехта з туга наладаванымі кішэнямі з-за вугла кіруе ды робіць у сьвеце ўсё, што захоча. Хто-ж мог падумаць, што мы будзем сьведкамі цалкавітага развалу такой магутнай дзяржавы, якім быў Савецкі Саюз, і што бляшку Нобэля начэпяць таму, хто разваліў яго?! Амаль 100-гадовы майшагольскі ксёндз-прэлат Юзаф Абрэмскі гаварыў мне, што ня можа гэтага развалу ўсьвядоміць, і заўсёды думае, што гэта сон, і шчыпае сябе за нос, каб прачнуцца. А ці можна забыць, як на вачох усяго чалавецтва валіліся амэрыканскія хмарачосы? А потым жудасныя падзеі ў Маскве, не кажучы ўжо пра войны на Каўказе ці ў Іраку. Неспакойна і ў іншых мясцох на Зямлі – нейкі сапраўдны занепад і паталёгія ўсяго грамадзтва ў сьвеце. Коратка кажучы, "тыл і даляр" памяшалі мозгі ўсім на сьвеце, зрабілі так, што чалавецтва нібыта да гэтага нічога ня ведала. У Літве тут у нас яшчэ з паўбяды, у Беларусі – таксама. Важна адно, што спакойна, няма ніякай разьні. А што тычыцца прэзыдэнта, якога зьбіраюцца скінуць некаторыя нашыя "крыштальна-чыстыя" літоўскія палітыкі-дабрадзеі, дык мы яго зноў выбярэм, а не, дык яго выбяруць за нас – тыя самыя "дбрадзеі" з туга наладаванымі кішэнямі, і зробяць нам акурат такую "дэмакратыю", якая ім патрэбная. Бо няма, пэўна, у сьвеце падобных адна да адной, як блізьняты, дэмакратыяў. Дэмакратыя, як і ўсякая рэч, мае цану, а значыць купляецца-прадаецца. Так што 2004 год нам свае кіпцюры яшчэ пакажа, ды не аднаму чалавеку, нават дзяржавам. А я пажадаю чытачам "Руні" як найлепшага году, і ну яе тую "дэмакратыю" разам зь дзіцячымі гульнямі ў "выбары", якія гуляюць сёньня і ў сьвеце, і ў нас, і па-суседзтву. А цяпер, усяго найлепшага, братцы! Вып'ем, у каго што ёсьць, пацалуем найблішэйшую асобу і ступім першы крок у 2004 год!

**Юзаф Русакевіч**, *Майшагола*

# Гістарычны „палац” Юзафа Абрэмскага

Мне пашчасьціла быць і доўга жыць па-суседзтву, праз вуліцу, ды сябраваць яшчэ за савецкія часы (ад 1965 г.) з майшагольскім ксяндзом-прэлатам Юзафам Абрэмскім, катораму цяпер амаль ужо 100 гадоў. Яго называюць „хадзячай энцыкляпэдыяй”. І цяпер чытае без акуляраў. Усё цудоўна памятае ад царскіх часоў,



“Палац” кс. Юзафа Абрэмскага ў Майшаголе. 1997 г.



Партрэт кс. Люцыяна Халецкага работы Пётры Сергіевіча.

усе войны, рэвалюцыі ды акупацыі. Ягонае доўгае жыцьцё прайшло на Віленшчыне: у Вільні, Тургелях і Майшаголе.

По вайне ўсіх сьветароў зь Вільні бальшавікі павыганялі, перасадзілі, а многіх і пазабівалі. У 1950 г. Ю. Абрэмскага з Тургеляў перакінулі ў Майшаголу, пасяліўся ён у мізэрнай халупе за касьцёлам, урослай па самыя вокны ў зямлю, са столі каторай сыпаўся пясок на галаву й ежу. Гэты свой дом назваў ён „палацам”. Пад такой назвай ён цяпер у сьвеце й фігуруе, зрабіўся гістарычным мейсцам. У паваенныя часы ў гэтым „палацы” зьбіралася й дажывала апошнія гады найвышэйшае каталіцкае „апальнае” духавенства Вільні й Віленшчыны, праваслаўныя, грэка-каталікі. Часта прыяжджаў сюды й ведамы беларускі мастак Пётра Сергіевіч, пра якога кс. Абрэмскі можа распавядаць па некалькі гадзінаў.

Мастак прыяжджаў да свайго сябра-ксяндза ці ня кожнай суботы й нядзелі, заўсёды з палатном і фарбамі. Ён зрабіў вялікі рамонт у касьцёле, быў, фактычна, архітэктарам і паводле ягоных праектаў былі збудаваныя два бакавыя аўтары. (Тое самае мастак рабіў у Горадні й Солах). Над ложкам кс. Абрэмскага й дагэтуль вісіць вялікі й пекны партрэт пэндзля Сергіевіча, на якім намаляваны ксёндз Люцыян Халецкі.

P.S. У архіве кс. Л. Халецкага, які паходзіў з Рэчыцы, захавалася некалькі старых паштовак зь відамі ягонага роднага гораду. З адной паштоўкай, якой няма ў альбоме Вячкі Целеша „Гарады Беларусі на старых паштоўках”, знаёмім нашага чытача. Пекнае было беларускае мястэчка Рэчыца!

**Ю. Русакевіч**



## У сярэдзіне лістапада

Вільню наведала спн. Яраслава Легенчанка, нашая зямлячка, якая ўжо 5 гадоў жыве ў аўстралійскім г. Сыднеі. Упершыню патрапіўшы ў Аўстралію, гэтая мужная й цікавая жанчына не разгубілася ў невядомай, чужой краіне. Яна занялася ня толькі ўладкаваньнем уласнага жыцьця, а вельмі хутка наладзіла сувязі з суайчыньнікамі, уключылася ў беларускае жыцьцё, заўсёды мае нейкія даручэньні ад беларусаў-аўстралійцаў, ладзіць разнастайныя імпрэзы ў Беларускім доме ў Сыднеі, дапамагае старым (яна – доктар з прафэсіі). Дасканала вывучыўшыся ангельскай мовы й авалодаўшы кампутарам, спн. Яраслава дае інфармацыю ў аўстралійскі друк пра жыцьцё беларусаў Аўстраліі, пра падзеі на Бацькаўшчыне.

У Вільні спн. Яраслава вельмі цікавілася беларукімі мясьцінамі, наведала Базылянскія муры, агледзела памешканьні, дзе месьціўся Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча, Беларуская гімназія, праваслаўная сэмінарыя, сустрэлася зь беларускаю моладзьдзю, якая акурат гэтага дня зьдзяйсьняла пілігрымку да Маткі Боскай Вострабрамскай.

Нам, беларусам-віленчукам, яна пераказала прывітаньні беларусаў з Аўстраліі, каторыя цікавяцца Вільняй, нашым беларускім жыцьцём тут, дзейнасьцю калектыва рэдакцыі газэты “Рунь”. Спн. Яраслава распавяла, што аўстралійскія беларусы ставяцца зь вялікаю пашанаю да газэты “Рунь”, абяцала высылаць нам свае матар’ялы з Аўстраліі, знаёміць з жыцьцём нашых братоў на выгнаньні. Сёньня, з нагоды Калядаў і Новага году, перадаем ім самыя найлепшыя пажаданьн ў асабістым жыцьці й грамадзкай дзейнасьці. Мы памятаем безумоўныя заслугі ўсіх тых, хто падчас ліхалецьця Другой сусьветнай вайны трымаўся ідэалаў і прынцыпаў Беларускае Цэнтральнае Рады, ў нялёгкі для нашае Бацькаўшчыны час прыйняў на сябе галоўны цяжар пытаньня йснаваньня нашай нацыі.

**Павал Саўчанка**

# А ты падпісаўся на газэту «РУНЬ»?




### Умовы падпіскі на газэту “Рунь”!

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$ 25**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак: *Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansa-LTB, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no.* ***10 000 196 490.***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **261 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНД** паведамляем адрас у Пінску: *Сяргей Гут, 225710 Пінск-1, а/с 27.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 5**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 8**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 10**.



Адрасы для допісаў:
✉ **«Рунь»**, 2001 Vilnius, a/d 1021
✉ **Ігар Перышч**, Брэсцкая 116-9, 225710 Пінск.
**e-mail: editor@runbel.lt**

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | | |
|---|---|---|
| ***М. Русак*** *зь Літвы* | *LTL* | *20* |
| ***В. Кажан*** *з Амэрыкі* | *USD* | *25* |
| ***A. Nick*** *з Амэрыкі* | *USD* | *30* |
| ***Л. Колін*** *з Амэрыкі* | *USD* | *100* |
| ***К. Акула*** *з Канады* | *USD* | *50* |
| ***В. Рамук*** *з Амэрыкі* | *USD* | *25* |
| ***М. Дзямковіч*** *з Амэрыкі* | *USD* | *25* |
| ***Булат*** *з Англіі* | *USD* | *20* |
| ***М. Грэбень*** *з Амэрыкі* | *USD* | *30* |
| ***М. Антух*** *з Аўстраліі* | *AUD* | *50* |
| ***М. Лужынскі*** *з Аўстраліі* | *AUD* | *50* |
| ***А. О. Романо*** *з Амэрыкі* | *USD* | *100* |
| ***В. Кіпель*** *з Амэрыкі* | *USD* | *100* |
| ***К. Акула*** *з Канады* | *USD* | *50* |

**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis
Выдаецца з 1997 году
Выходзіць адзін раз у месяц
Выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў**
***«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі:
2001 Vilnius, a/d 1021
тэлефон: (+ 370) 652 07933
факс: (+ 370 5) 242 38 02
**http://www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
Друкарня **UAB «Infosiûlas»**, Žirmūnų g. 68, Vilnius
наклад **1000**